

# Дзвінскі ўзгорак

*Кроч на свой родны,*
*дзвінскі ўзгорак,*
*каб глядзець у будучую сінь*

**ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №2 (18)**
**СТУДЗЕНЬ 2015 ГОДА**

**АХОВА ЗДАРОЎ'Я**

## ХТО ЗА БУДОЎЛЮ — ТОЙ ВОРАГ ДЗЯРЖАЎНАГА ЛАДУ

**Начальнік управы аховы здароўя Віцебскага аблвыканкаму Юры Дзеркач публічна абвінавацiў найбольш актыўных прыхільнікаў будаўніцтва палiклiнiкi ў мікраранё Білева ў тым, што яны нібыта падрываюць дзяржаўны лад.**

Пра іх жа намеснік старшыні гарвыканкаму Уладзімер Шлома выказаўся расейскай прымаўкай: «В семье не без урода». Адбылося гэта 15 студзеня на сходзе жыхароў мікрараёну, арганізаваным уладамі ў адказ на калектыўны ліст, пад якім стаяла без малога пяць тысяч подпісаў. Усяго ў мікрараёнах Білева-1, Білева-2 і Білева-3 жывуць больш за 20 тысяч чалавек. І ніводнай мэдычнай установы тут няма.

Мікрараёны на ўскраіне Віцебску пад агульнай назвай Білева пачалі будаваць 10 гадоў таму. Сёньня тут каля 23 тысяч жыхароў, адзіная на ўсіх мясцовых дзяцей перапоўненая школа і ніводнай палiклiнiкi.

Менавіта ў школе № 46 і быў сабраны сход мясцовых жыхароў, якія падпісаліся пад лістом за будоўлю палiклiнiкi. Ініцыятарамі збору подпісаў былі актывісты стваранай партыі БХД, кажа каардынатарка аргкамітэту па стварэньні партыі Тацяна Севярынец:

*«22 ліпеня мы адправілі калектыўны ліст з 4756 подпісамі ў Міністэрства аховы здароўя і да кіраўніцтва горада і вобласьці. Потым сабраўся гарадзкі форум „За якасную мэдыцыну ў Віцебску" — за паляпшэньне якасьці мэдычнага абслугоўваньня, куды ўвайшлі прадстаўнікі і іншых структур. Мы зноў зьбіралі подпісы — па шырэйшым коле праблемаў. І гэты сход — рэакцыя міністэрства».*

Сход быў прадстаўнічы, калі меркаваць па колькасьці людзей у прэзыдыюме. Тут былі прадстаўнікі Міністэрства аховы здароўя, аблвыканкаму, гарвыканкаму, раённай адміністрацыі, дэпутат, прозьвішча якога так і засталося невядомым... У залі было шмат журналістаў, настаўнікаў, якіх «папрасілі» застацца пасьля ўрокаў, і нязначная частка звычайных жыхароў мікрараёну. Нязначная — бо абвестак пра сход у мікрараёне не было, толькі на будынку школы, паводле словаў адміністрацыі, і на асобных дамах. Прычым запрашалі на сустрэчу з дэпутатам, які на сходзе так і ня выступіў.

Рэй вёў начальнік управы аховы здароўя Віцебскага аблвыканкаму Юры Дзеркач. Ён распачаў сход на 15 хвілін пазьней за прызначаны час, а потым яшчэ хвілін 40 апавядаў пра дасягненьні мясцовай мэдыцыны. Ягоны аповед суправаджаўся слайдамі з каляровымі малюнкамі і дыяграмамі, а гаварыў чыноўнік пра набыцьцё новага абсталяваньня, рост зарплаты віцебскіх мэдыкаў, 100-адсоткавую забясьпечанасьць кадрамі, зьмяншэньне колькасьці інвалідаў у рэгіёне і нават пра барацьбу з дармаедзтвам.

Толькі напрыканцы прамовы ён дайшоў да прадмету сходу: сказаў, што ў 2015 годзе нарэшце пачнецца будоўля палiклiнiчнага комплексу для мясцовых жыхароў. Такія абяцаньні ў Віцебску гучалі ўжо шмат гадоў — у тым ліку і ад былога губэрнатара Аляксандра Косінца, нядаўна прызначанага кіраўніком адміністрацыі Аляксандра Лукашэнкі. Пра гэта чыноўніку тут жа нагадала спадарыня з залі:

*«Напрыканцы 2013 году спадар Косінец урачыста абяцае жыхарам Білева нарэшце пабудаваць палiклiнiку. Хоць капсулу на месцы будучай будоўлі закапалі яшчэ раней, цяпер ніхто знайсьці ня можа — ня памятаюць, дзе... Дык я што хачу сказаць: ня трэба даваць пустых абяцаньняў, ня трэба хлусіць! Я ж вам веру, і дэпутату, якога тут не назвалі, таксама. І вы такім чынам страчваеце давер людзей!»*

Пасьля гэтага і распачаўся адкрыты канфлікт. Адказны за стан мэдыцыны ў вобласьці спадар Дзеркач паспрабаваў перацягнуць людзей у залі на свой бок, абвінавацiўшы актывістаў у фальшаваньні подпісаў за будоўлю палiклiнiкi:

*«Я сабраў бы ўсіх, хто падпісаўся, ды спытаў: „Пад чым яны падпісваліся?" Бо ёсьць рэчы, якія тычацца фальсыфікацыяў. Я ўжо бачу ў залі людзей, якія дзівяцца: „Няўжо мы пад гэтым падпісваліся?" Гэта ўсё — нападкі на нашу дзяржаву, на дзяржаўны лад. Яны беспадстаўныя, і людзі, якія тут сабраліся, гэта пацьвердзяць»...*

Аднак людзі не пацьвердзілі. Бо іх хвалююць не ідэалягічныя фармулёўкі, а цалкам рэальныя рэчы.

*«Ад нас раніцай дрэнна ходзіць транспарт. На цягнік да Менску ў 6:30 або на дызэль да Воршы ў 6:40 ніколі ня трапіш, зьвярніце на гэта ўвагу»,* — папрасіла спадарыня.

Наступны прамоўца сказаў, што гатовы дапамагчы будаваць палiклiнiку з уласнай пэнсіі:

*«А давайце арганізуем продаж імянных цаглін, як на царкву! Вось асабіста я набуду 100 штук. І магу бясплатна здаць крою. Бо ў нас у Білеве будуюць толькі крамы, розныя „Эўраопты" ды забаўляльныя цэнтры, а палiклiнiкi няма!»*

Жыхары Білева езьдзяць у палiклiнiкi іншых раёнаў, таму тыя мэдустановы перапоўненыя.

Мясцовая жыхарка Алена Шабуня зьбірала подпісы за будаўніцтва новага аб'екту. Яе ўразіла рэакцыя намесьніка старшыні гарвыканкаму Уладзімера Шломы:

*«Ён спачатку казаў, што гэта добра — такія сустрэчы, што патрэбная зваротная сувязь... Але ж яны гаварылі не пра тое, што ў іх пыталіся. А напрыканцы сустрэчы ён заявіў: „Мы ведаем, хто тут ёсьць хто, і як кажуць, «в семье не без урода". Значыць, гэта і я такі „ўрод", і людзі „ўроды", якія падпісваліся».*

Дарэчы, падчас сходу па радах пусьцілі паперчыну, каб усе прысутныя запісалі свае прозьвішчы. Дзеля якой мэты — не патлумачылі.

А што да палiклiнiкi, то будоўлю паабяцалі распачаць цяпер ужо сёлета. Але ўводзіць яе ў дзеяньне, сказалі, будзе рэнтабельна толькі тады, калі насельніцтва мікрараёну дасягне 45–50 тысяч чалавек.

Цяпер тут каля 25 тысяч жыхароў. Але гэтага, на думку чыноўнікаў, недастаткова, каб будаваць мэдустанову — трэба, каб колькасьць насельніцтва павялічылася яшчэ ўдвая. У 2009 годзе, калі пабудаваць аб'ект абяцалі ўпершыню, насельнікаў Білева «па галовах» яшчэ не падлічвалі.

**"Радыё Свабода"**

***Чытайце сайт Віцебскага раёна: http://vicebskreg.by***

**СВАБОДА СЛОВА**

## АДСТАЯЦЬ ПРАВА НА ФОТАСЕСІІ...

**Прызнаўшы фотасесію на фоне гарадскога графіці несанкцыянаваным пікетаваннем, суд Чыгуначнага раёна Віцебска аштрафаваў шэсць удзельнікаў. Спробы абскардзіць гэта рашэнне ў абласным судзе поспеху не мелі. Цяпер пададзеня скаргі на імя старшыні абласнога суда.**

Паводле праваабаронцы Паўла Левінава, удзельнікі фотасесіі вырашылі давесці справу да канца – калі прыйдзецца, то звярнуцца і ў Камітэт па правах чалавека ААН:

*"Былі спробы аспрэчыць рашэнне суда першай інстанцыі – не атрымалася. Тады мы паспрабавалі звярнуцца да старшыні абласнога судв, каб адкласці час выканання рашэння, пакуль ён не азнаёміцца з нашымі справамі. Але і тут усе атрымалі адмовы. Вырашылі звярнуцца ў раённы суд, каб нам дазволілі заплаціць штраф у растэрміноўку, бо ў аштрафаваных не такія вялікія прыбыткі, каб адным разам сплаціць больш як па тры мільёны рублёў – і тут адмовілі".*

Павел Левінаў таксама быў адным з удельнікаў фотасесіі, якая прайшла ў Віцебску ў пачатку лістапада 2014 года. Удзельнікі вырашылі сфатаграфавацца на фоне вядомага ў горадзе графіці – малюнка трох клетак, з якіх вырываюцца на волю птушкі, зробленыя з газеты. Каб працягнуць тэму свабоды прэсы, узнятую невядомым мастаком, людзі на фотаздымках таксама трымалі ў руках хто папярэвыя клеткі, а хто – зробленых з газет птушак-арыгамі.

Гэтыя фотаздымкі трапілі ў інтэрнэт 5 лістапада, калі ў свеце праводзілася міжнародная кампанія салідарнасці "Станем за журналістыку". Удзельнікаў фотасесіі, сярод якіх былі і праваабаронцы, і журналісты, і грамадскія актывісты, аштрафавалі як удзельнікаў несанкцыянаванага пікетавання. Фотасесія прайшла без увагі міліцыі, але праз два тыдні пасля з'яўлення фотаздымкаў у інтэрнэце ўсіх, каго пазналі па фота, выклікаў начальнік аддзела аховы прафілактыкі і правапарадку міліцыі Чыгуначнага раёна Аляксандр Рыбакоў. Ён апытваў удзельнікаў фотасесіі, і, нягледзячы на іх тлумачэнні, складаў пратаколы правапарушэння.

На судзе над кожным удзельнікам фотасесіі маёр міліцыі Рыбакоў быў адзіным сведкам. Ён казаў, што загад разабрацца з людзьмі на фотаздымках атрымаў ад свайго кіраўніцтва з абласной управы МУС, і што, на ягоную думку, удзельнікі фотасесіі *"выказвалі свае грамадска-палітычныя інтарэсы"*. Тое, што ўсе людзі маюць права на свабоднае выказванне ўласных думак, не ўлічыў ні міліцыянт, ні суд. Штраф памерам 20 базавых велічыняў атрымалі журналісты Алена Сцяпанава (суддзя Дзяніс Губанаў), Кастусь Мардзвінцаў (суддзя Алена Цыганкова), Зміцер Казакевіч (суддзя Алена Цыганкова). Штраф памерам 18 базавых велічыняў прысуджаны актывісцы аргкамітэта па стварэнні партыі БХД Алене Шабуні (суддзя Дзяніс Губанаў), віцебскай каардынатарцы аргкамітэту па стварэнні партыі БХД Тацццяне Севярынец і праваабаронцу Паўлу Левінаву былі прысуджаны штрафы памерам 25 базавых велічыняў (суддзя Алена Цыганкова). Гэтая ж суддзя пакарала трыма суткамі арышту жыхара Віцебска Пятра Бярлінава – выпадковага мінака, які далучыўся да фотасесіі віцебскіх журналістаў і актывістаў.

Сплаціць штрафы ў растэрміноўку не дазволілі нікому з вышэй пералічаных асоб. Суддзі суду Чыгуначгнага раёну не ўлічылі, што сярод аштрафаваных ёсць беспрацоўныя, пенсіянеры з невялікай пенсіяй, прыкладам, як Тацяна Севярынец, а Алена Шабуня з'яўляецца інвалідам 3-й групы па зроку, і таксама жыве на адну пенсію, пры гэтым яна адна гадуе траіх дзяцей, двое з якіх – непоўнагадовыя.

*"Я ўжо спрабаваў аспрэчыць рашэнне пра адмову ў растэрміноўцы,* -- кажа Павел Левінаў. *Паказаў квіток, што атрымліваю пенсію, і другі – што 600 тысяч мушу плаціць толькі за камунальныя паслугі. Паказаў пасведчанне аб смерці бацькі, якога толькі нядаўна пахаваў, а гэта, як вядома, таксама вялікія выдаткі… Аднак суддзя Алена Цыганкова так і не знайшла дастатковых падстаў, каб дазволіць пагашэнне штрафаў цягам некалькіх месяцаў – ні для мяне, ні для астатніх. Да нас ставяцца так, нібыта мы нанеслі дужа вялікую шкоду гораду і правапарадку ў ім, усяго толькі сфатаграфаваўшыся на фоне графіці! Нідзе ў свеце за падобныя фотаздымкі не караюць".*

**Праваабарончы цэнтр "ВЯСНА"**

ДАРОЖНАЯ БЯСПЕКА

# ЧАРГОВАЯ КАНФІСКАЦЫЯ АЎТО

**За паўторнае кіраванне транспартным сродкам падшафэ віцяблянін пазбавіўся свайго аўто. П'янаму кіроўцу ўсё хоць бы што - калі ўжо прыняў на грудзі, значыць, і мора па калена. Гэтая аўтаакс\іёма падвяла ліхача, які двойчы парушыў закон, прычым у другі раз па крымінальным артыкуле.**

Напярэдадні сваёй вырашальнай аўтапрагулкі Артур Васільеў (імя і прозвішча зменены -. Заўвага аўтара) разам з роднымі сабраўся за вялікім сталом, каб адсвяткаваць сямейную ўрачыстасць. Не абыйшоўся той вечар без спіртнога. Назаўтра 36-гадовы мужчына вырашыў адправіцца ў горад, каб здзейсніць неабходны шопінг.

Віцяблянін стараўся стойка трымацца на віражах, але супрацоўнікі ДАІ заўважылі злёгку хісткую «ходу» аўто і спынілі кіроўцу на аўтадарозе Віцебск-Сянно для праверкі. Аказалася, што ў Артура не было пасведчання кіроўцы. Ад Васільева зыходзіў пах алкаголю, і адмаўляць тое, што ён не ўжываў спіртное, не стаў, тым больш, што за бягучы год паўторна пасля накладання адміністрацыйнага спагнання трапіўся падшафэ.

На медыцынскім агледзе былі зафіксаваныя пары этылавага спірту ў канцэнтрацыі 0,29%. У дадатак да таго ён здаў і біялагічныя ўзоры крыві, пасля чаго яму паўторна прапанавалі выкарыстаць прыбор. На гэты раз магутнасць перегарного «выхлапу» выдала 0,28%.

Як адзначыла памочнік пракурора Віцебскага раёна Вікторыя Шэверноўская, пасля правядзення лабараторных даследаванняў эксперыментальныя ўзоры крыві паказалі 0,37%, што даказвала: у момант кіравання транспартным сродкам кіроўца знаходзіўся ў стане алкагольнага ап'янення. Вінаваты азнаёміўся з вынікамі ўсіх даследаванняў, аднак ад подпісу акта агляду адмовіўся.

Уходзе судовага паседжання Васільеў з апошнім вынікам аналізу не пагадзіўся, бо напярэдадні ўвечары выпіў толькі 150 грам гарэлкі, і такога высокага ўтрымання ў крыві этылавага спірту відавочна не чакаў. *«Аналізы ў мяне ўзялі з парушэннямі, якія выявіліся ў тым, што месца пункцыі перад узяццем аналізу апрацавалі спіртам, што паўплывала на вынік,* - сказаў Васільеў на судзе. - *Узоры крыві не былі спакаваныя ў маёй прысутнасці і пры гэтым мой подпіс на узорах не быў запатрабаваны».*

На судзе лекар і фельчар растлумачылі, што для вызначэння канцэнтрацыі абсалютнага этылавага спірту скура ў месцы правядзення пункцыі папярэдне апрацоўваецца фурацылінам ці іншымі медпрэпаратамі, якія не ўтрымоўваюць спірт. Было даказана, што спірт для гэтых мэтаў не выдаваўся і на момант узяцця крыві адсутнічаў. Было патлумачана, што біялагічны ўзор паступіў у лабараторыю ў запячатаным выглядзе, пранумараваны, змацаваны пячаткай і завераны подпісам лекара. Гэта зафіксавана ў адпаведных часопісах.

- *Нягледзячы на ўзмацненне жорсткасці заканадаўства, знаходзяцца кіроўцы, якія садзяцца за руль пад градусам,* - адзначае Вікторыя Шэверноўская.

Артуру Васільеву вынеслі вердыкт па ч.1 арт. 317-1 КК РБ і прысудзілі да выпраўленчых працаў на 1 год 6 месяцаў з утрыманнем у даход дзяржавы 20% з заробку. Таксама мужчыне давядзецца забыцца пра «штурвал» - на 5 гадоў яго пазбавілі права займацца дзейнасцю, звязанай з кіраваннем усімі відамі транспартных сродкаў. У дадатак да гэтых сур'ёзных пакаранняўканфіскаваная яго «ластаўка».

**Вольга Булаўка**
**"Жыццё Прыдзвіння"**

БРАКАНЬЕРСТВА

# НЕСПАКОЙНА Ў ПАЛЯЎНІЧЫХ УГОДДЗЯХ

**Інфармацыя аб працы Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**

5 студзеня работнікі Віцебскай міжрайінспекцыі і ДЛГУ «Суражскі лясгас» у паляўнічых угоддзях дадзенага карыстальніка ўсталявалі факт незаконнай здабычы лася. Ад месца здабычы сляды вялі да аднаго з дамоў у найбліжэйшай вёсцы Тарасенкі. Падчас агляду домаўладання дзяржінспектары выявілі дзве незарэгістраваныя паляўнічыя стрэльбы, 25 патронаў і 9 пастак. Віцебскі РАУС вырашае пытанне аб узбуджэньні крымінальнай справы па ч. 4 арт. 282 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь - незаконнае паляванне, якая пацягнула прычыненне шкоды ў асабліва буйным памеры - 300 базавых велічынь.

10 студзеня работнікі Віцебскай аблінспекцыі ў паляўнічых угоддзях СТАА «Марка-Сэрвіс» знайшлі астанкі ласяці-сяголетка. На месца выклікалася следча-аператыўная група Бешанковіцкага РАУС і РАСК. Вырашаецца пытанне аб узбуджэньні крымінальнай справы па ч. 4 арт. 282 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь - незаконнае паляванне, якая пацягнула прычыненне шкоды ў асабліва буйным памеры - 300 базавых велічынь.

11 студзеня работнікі Віцебскай міжрайінспекцыі ў паляўнічых угоддзях Сенненскай РАС РДГА «БТПР» пры аглядзе аўтамабіля пад кіраваннем жыхара Сенненскага раёна выявілі тушку савы, як мяркуецца, даўгахвостай кугакаўкі, віду, уключанага ў Чырвоную кнігу Беларусі. Шкода, прычыненая навакольнаму асяроддзю, склала 105 базавых велічынь. Вядзецца разбіральніцтва.

З 5 па 11 студзеня работнікі Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь правялі 122 палявых кантрольных мерапрыемствы і выявілі 191 парушэнне прыродаахоўнага заканадаўства, у тым ліку:

- 70 парушэнняў Правілаў вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства, канфіскаваныя 17 сетак агульнай даўжынёй каля 0,5 км і 24 кг незаконна вылаўленай рыбы;
- 79 парушэнняў Правілаў вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання, канфіскаваныя 30 паляўнічых стрэльбаў, у тым ліку 9 незарэгістраваных, і 438 кг мяса дзічыны;
- 29 парушэнняў правілаў лесакарыстання;
- 13 іншых парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства.

ІНВЕСТЫЦЫІ

# НОВАЯ ТЭХНІКА ДЛЯ ВІЦЕБСКІХ РАТАВАЛЬНІКАЎ

**Новыя пажарныя машыны паступілі ў распараджэнне Віцебскага раённага аддзялення па надзвычайных сітуацыях.**

І гэтая тэхніка, магчыма, ужо дапамагала пажарным ліквідаваць узгаранне ў нежылым доме ў гарадскім пасёлку Сураж, якое адбылося ўвечары 23 студзеня. Агонь пашкодзіў дах, перакрыцці, сцены і маёмасць, але самае страшнае, што выратавальнікі выявілі труп на месцы узгарання, як мяркуецца, жанчыны, усталёўваюць асобу загінулай і прычыны ўзгарання.

У абласным упраўленні МНС растлумачылі, што за апошнія два гады ў рэгіён прыбылі 14 новых аўтацыстэрнаў на шасі МАЗ. Гэта тэхніка падвышанай праходнасці з вялікім запасам вогнетушачага рэчыва (каля 8-10 т). Такія машыны дазваляюць больш эфектыўна змагацца з агнём, асабліва ў сельскай мясцовасці, дзе складаней дабрацца да пажарных вадаёмаў і дазапраўляцца.Старыяцыстэрны месяцць ўсяго 2,5 т вадкасці, якіх хапае для бесперапыннай працы трох пажарных стваолаў толькі на працягу чатырох хвілін. Дзякуючы новым пажарным аўтацыстэрнам гэты час павялічваецца ў разы.

**К.Адамаў**

ДОБРАЎПАРАДКАВАННЕ

# ЗНОСІЦЬ АБО ПРАДАВАЦЬ?

**За студзень-лістапад мінулага года ў населеных пунктах Віцебскага раёна знесена 28 старых дамоў.**

Дзесяць пустых дамоў прыведзены ў парадак. Яшчэ некалькі пустых будынкаў выстаўлены на аўкцыён. Сярод іх будынка былой школы і дзіцячага садка ў в. Белынавічы, школы ў в. Камары і свінарніка каля пас. Віцьба.

Некаторыя з гэтых будынкаў спрабуюць прадаць ужо год, але ўсё ніяк. Можа кошты на іх выстаўлены не рынкавыя, або ні хто не хоча стаць уладальнікам нерухомасці ў неперспектыўных населеных пунктах, або зараз танней пабудаваць новы будынак, а не рэканструяваць стары? Вось і называюць у справаздачных дакументах знос старога жылля «мерапрыемствамі па добраўпарадкаванні», інакш «навядзеннем парадку на зямлі».

Акрамя зносу будынкаў, у рамках мерапрыемстваў па добраўпарадкаванніўбрана85 звалак, праведзена абвалоўка 11 мініпалігонаў цвёрдых бытавых адходаў, устаноўлена 45 кантэйнераў для збору смецця. З жыхарамі з пачатку года заключанададаткова 435 дагавораў на вываз ЦБА (цвёрдых бытавых адходаў).

**К.Адамаў**

АЛІМПІЯДНЫ РУХ

# ДЫПЛОМАЎ СТАЛА БОЛЬШ

**Прадстаўнікі Віцебскага раёна годна выступілі на абласных прадметных алімпіядах. Зборная каманда Віцебскага раёна ў складзе 13 чалавек годна выступіла на абласных прадметных алімпіядах. Нашы школьнікі прывезлі 7 дыпломаў, павялічыўшы леташні паказчык на 6.**

Ўстановы адукацыі могуць ганарыцца сваімі моваведамі. У актыве два дыплома 3-й ступені па рускай мове (Аляксандра Ляхновіч, Старасельская СШ і Аляксандра Маскаленка, Должанская СШ), два дыпломы 2-й ступені па замежнай мове (Аніта Драбцова і Ангеліна Кучынская з Акцябрскай СШ), дыплом 3-й ступені па беларускай мове (Аляксандра Гвоздзева, Суйкоўская СШ). Веды па матэматыцы абараніў і атрымаў дыплом 3-й ступені Васіль Валынец з Ноўкі.

Асабліва вызначылася навучэнка Суйкоўскай школы Марыя Макарава. 9-класніца ўдзельнічала ў алімпіядзе па гісторыі за курс 10 класа і ўдастоена дыплома 2-й ступені.

**Ніна Сталярэнка**
**"Жыццё Прыдзвіння"**





НАША ЎЛАДА

# БЕЛАРУСАЎ ПЕРАВОДЗЯЦЬ НА КАНТРАКТ ВЫЖЫВАННЯ

**Раздаваць грошы перад прэзідэнцкімі выбарамі, як гэта было раней, у гэтым годзе беларусам не будуць. Так у перакладзе на абывацельскую мова гучыць свежая ўстаноўка Аляксандра Лукашэнкі прэм'еру.**

На сустрэчы з Андрэем Кабяковым22студзеняпрэзідэнт, як паведамляюць афіцыйныя крыніцы, зарыентаваў урад на захаванне дасягнутай па выніках 2014 тэндэнцыі перавагі ў росце прадукцыйнасці працы над заробкамі.

**Даляравы трэнд дабрабыту зламаўся**

Калі казаць прасцей, заробкі беларусаў у другой палове мінулага года фактычна замарозілі.Інфляцыя ж працягвала сваю чорную справу, з'ядаючы пакупніцкую здольнасць гэтых самых заробкаў, і па выніках 2014 склала 16,2%.

Але і гэта былі толькі кветачкі ў параўнанні з наступствамі гібрыднай снежаньскі-студзеньскай дэвальвацыі, якая зьнізіла кошт беларускі рубель у адносінах да долара амаль на 40%. Цяпер, нягледзячы на грубыя спробы стрымаць цэны пагрозай адміністрацыйнай сякеры, можа стрэліць дэвальвацыйна-інфляцыйная спіраль.

Эксперты мяркуюць, ці дасягнуў айчынны рубель дна, і адказ зусім не відавочны. Ва ўсякім выпадку, ужо амаль напэўна можна казаць, што да выбараў, папярэдне вызначаным на 15 лістапада, беларусы могуць падысці з сярэднім заробкам, якая ў доларавым эквіваленце апынецца ніжэй не толькі за мінулагодні ўзровень, але і паказчыка пяцігадовай даўнасці.

Інакш кажучы, калі раней Лукашэнка нязменна забяспечваў рост даляравага эквіваленту заробкаў да новых прэзідэнцкіх выбараў (2001 год - 100 даляраў, 2006-ы - 250, 2010-ы - 500), то зараз да часу чарговага «экзамену перад народам» паказчык можа спаўзці, па песімістычным разліках, да 300-350 долараў.

Лічбы прагнозаў вагаюцца, але ў любым выпадку наклёўваецца злом трэнду.

У доларавым эквіваленце сярэдні заробак беларусаў да выбараў-2015 можа «апынуцца некалькі ніжэй, чым у 2010 годзе», заявіў у каментары для Naviny.by эканаміст Беларускага эканамічнага даследча-адукацыйнага цэнтра (BEROC) Зміцер Крук.

Пры гэтым эксперт адзначае, што «практыка разліку зарплаты ў доларах не зусім карэктная». Калі ж узяць яе ў рублях і ўлічыць інфляцыю, то пакупніцкая здольнасць цяперашняй сярэдняй зарплаты ўсё ж некалькі вышэй, чым пяць гадоў таму, мяркуе Крук.

Суразмоўца адзначае, што ва ўрадзе намецілася тэндэнцыя адыходзіць ад прывязкі заробкаў да даляравым эквіваленце.

Што ж тычыцца рэзерваў павышэння зарплаты ў сённяшніх умовах, калі рост ВУП у прынцыпе пад пытаннем, то асноўны рэальны шлях, па словах эканаміста, заключаецца ў тым, каб скарачаць колькасць занятых на тым ці іншым прадпрыемстве. «Аднак наўрад ці такі шлях рэальны, асабліва перад выбарамі», - адзначае Крук.

**Ці страшная Лукашэнку пастка рэйтынгу?**

Сапраўды, скарачаць штаты, выстаўляць за вароты прадпрыемстваў нават тых, без каго можна абыйсціся, азначае адчуе перш за ўсё цвёрды электарат кіраўніка дзяржавы - тых, хто прывык гарантавана атрымліваць на чарку і скварку.

Больш за тое, цяпер, наадварот, ўзяліся за «дармаедаў», сілкуючы ілюзію папоўніць такім чынам казну за кошт падаткаў (і пытанне, дзе набрацца працоўных месцаў, не кажучы ўжо пра тое, як гэтая публіка вам напрацуе).

У цэлым жа, па незалежных прагнозах, айчынную эканоміку ў новым годзе чакае ў лепшым выпадку стагнацыя.

І наогул у плане забеспячэння дабрабыту беларуская мадэль, па меркаванні шматлікіх аглядальнікаў, банальна ўперлася ў столь. Так што ў агляднай перспектыве кашалькі большасці беларусаў калі і будуць таўсцець, то хіба што за кошт абясцэненых інфляцыяй купюр.

Між тым менавіта ўлада не здолела стварыць нейкай моцнай, пераканаўчай ідэалогіі, Менавіта ўлада сакралізавала ў свой час рост матэрыяльнага дабрабыту электарату, прычым менавіта ў доларавым эквіваленце. Што выглядала нават некалькі анекдатычна на фоне антызаходняй рыторыкі, і ў прыватнасці прапагандысцкага выкрыцьця Амерыкі, якая жыведзе за кошт друкавання папярак з партрэтамі сваіх прэзідэнтаў.

У добрыя для Беларусі гады незалежныя сацыёлягі канстатавалі, што каханне

(працяг на стар. 4)

НОВЫ СЦЭНАР

# МОБИЛИЗАЦИЯ ВМЕСТО МОДЕРНИЗАЦИИ

**В 2014 году Беларусь окончательно перешла от модернизационного к мобилизационному сценарию, и социологические опросы этот переход уже начинают фиксировать.**

В итогах очередного, декабрьского национального опроса НИСЭПИ эксперты в первую очередь обратили внимание на электоральный рейтинг Александра Лукашенко. В декабре относительно сентября он снизился на 5,2 пункта (с 45,2% до 40%).

Снижение было ожидаемым. С марта 2014 года общественное мнение Беларуси находится под мощным облучением российской телепропаганды. Оно следует за перепадами общественного мнения в России как нитка за иголкой, что позволяет по оперативным результатам российских социологов предсказывать динамику настроений белорусов.

В августе на пике военного противостояния на юго-востоке Украины фиксировались локальные максимумы великодержавной эйфории в России. После чего начался спад, сигнализирующий об исчерпании внутреннего ресурса мобилизационной кампании.

По мнению директора Левада-центра Льва Гудкова, в России произошел процесс разведения двух планов восприятия происходящего: символического, связанного с уровнем коллективных представлений о национальном единстве, великой державе, авторитете власти, и реальных оценок положения дел, которые пошли вниз после санкций и скачка инфляции.

Масса, как известно из школьного курса физики, является мерой инерции. Социальная масса в этом смысле не является исключением. В Беларуси населения в 15 раз меньше, чем в России. Поэтому рейтинг Лукашенко, в отличие от рейтинга Путина, тефлоновым не назовешь. Он способен изменяться под влиянием даже слабых колебаний социальных настроений.

Но это не главная проблема. Лукашенко неоднократно заявлял публично, что он отвечает в Беларуси «за все». То есть за успехи и за поражения. Как тут не вспомнить финансово-экономический кризис 2011 года, когда рейтинг главы государства упал до 20%, а общественное мнение ответами на вопрос социологов НИСЭПИ «Кто виноват в нынешнем кризисе в Беларуси?» определило первую тройку следующим образом: президент — 61%, правительство — 41%, США — 16%.

Нынешний же декабрьский опрос был проведен до 30-процентной девальвации белорусского рубля. Поэтому его результаты устарели еще на стадии технической обработки.

**У государства-кормильца — благодарные нахлебники**

Отказ Кремля от модернизации многие аналитики объясняют «трубой». Доля нефтегазовых доходов в федеральном бюджете в первом квартале 2014 года при прогнозе 48,1% составила 52,9%. Но и остальные проценты были набраны далеко не за счет высокотехнологичных отраслей экономики (а за счет экспорта металлов, удобрений и т.п.).

Указанные выше бюджетные поступления обеспечиваются двумя процентами населения. А как же остальные 98%? С точки зрения государства, живущего экспортом нефти, остальное население является излишним. Его вклад в создание национального богатства минимален. Остальное население — объект благотворительности со стороны государства.

И объект это чувствует. В этом заключается одна из причин столь высокого уровня поддержки государства-кормильца.

Государство, живущее с природной ренты, следует определить как ресурсное. Рост ВВП в таком государстве может совмещаться с деградацией экономики и общества. Что на практике в России и наблюдается.

ЕАЭС — это союз ресурсных государств. В качестве ресурса для Беларуси выступают имперские амбиции России, благодаря которым чистый доход Беларуси от нефтяного бизнеса составляет около 12% ВВП и более трети валовой добавленной стоимости, создаваемой белорусской промышленностью.

Не следует забывать и про калийные удобрения, экспорт которых в январе-октябре прошлого года составил 6% от общего объема белорусского экспорта.

**Честно трудиться снова невыгодно**

Молодость автора статьи прошла на одном из самых передовых предприятий СССР — минском ПО «Интеграл». Основным заказчиком электронных компонентов, естественно, выступали военные. На недостаток финансирования жаловаться не приходилось. Каждые три-четыре года в основных цехах происходила полная замена оборудования. Тем не менее, прогрессировавшее отставание от Запада было понятно и рядовым инженерам.

Задачу перехода от индустриальной к постиндустриальной экономике советская империя решить не смогла, несмотря на то что руководство страны считало ее приоритетной. Роль главного ограничителя, заблокировавшего развитие, сыграла не централизованная экономика, не коммунистическая идеология, а антиличностная культура, ориентированная в первую очередь на интересы социума, а не индивидуума.

Уровень сложности экономической, политической и социальной), заданный западной персоноцентрической культурой в конце XX века, оказался недостижим для культуры социоцентрической.

Белорусский же режим в этом плане воспроизводит, по сути, советский подход. Поэтому переход от модернизационного к мобилизационному сценарию (укрепление дисциплины, искоренение коррупции, борьба с тунеядцами) оказался, тут я применю любимый фразеологизм преподавателей научного коммунизма, исторически неизбежным для сегодняшней Беларуси.

Социологические опросы уже фиксируют реакцию общества на смену сценариев. Приведу самый интересный, на мой взгляд, тренд, зафиксированный последним опросом НИСЭПИ.

Обратимся к таблице.

**Что чаще всего, по вашему мнению, ведет к богатству?**
*(возможно более одного ответа)*

| вариант ответа | декабрь 1993 | январь 2007 | декабрь 2014 |
|---|---|---|---|
| личные связи | 72 | 43 | 47 |
| нечестность | 56 | 16 | 22 |
| труд | 37 | 68 | 44 |
| талант | 32 | 35 | 25 |
| везение | 30 | 39 | 38 |
| образование | 22 | 38 | 26 |

Первая колонка цифр — это пик системного кризиса в Беларуси. Большинство предприятий не работает. Средняя зарплата составляет около 20 долларов в месяц.

Декабрьский опрос 1993 года диагностирует аномию белорусского общества: состояние ценностно-нормативного вакуума, характерного для переходных и кризисных периодов, когда старые социальные нормы и ценности перестают действовать, а новые еще не установились.

Именно в условиях аномии в глазах общества резко деградируют ценности труда и образования. Растет спрос на личные связи (блат) и нечестность. Такая переоценка весьма и весьма рациональна, так как именно индивидуальные стратегии, выстроенные на основании личных связей, а не коллективные действия, способствуют выживанию в наступившем хаосе.

Пришедшая же во второй половине «нулевых» годов стабильность изменила ценностные приоритеты белорусов. Нет, потребность в личных связях для достижения материального благополучия не потеряла окончательно своего значения, но первенство она уступила труду и почти сравнялась с образованием.

Таким образом, подтвердилась известная политологическая истина: во всем мире люди ставят перед собой схожие цели (материальный достаток, здоровье и т.п.), но вот пути их достижения во многом определяются теми рамками, которые создает власть.

Сегодня страна вновь вползает в системный кризис, у которого, как отмечалось выше, имеется и цивилизационное измерение. Декабрьский опрос 2014 года зафиксировал приоритет личных связей над трудом. Существенно снизилась и ценность образования.

За счет блата и нечестности, безусловно, можно добиваться личных успехов, но вот что касается повышения конкурентоспособности экономики, государства и нации, то тут возникают большие проблемы.

*(скарочана)*

**Сергей НИКОЛЮК**
**naviny.by**

НАША ЎЛАДА

*(пачатак на стар. 3)*

электарату да нязменнага кіраўніка дзяржавы становіцца ўсё больш рацыянальным, меркантыльным - і што апошні такім чынам рызыкуе трапіць у рэйтынгавую пастку. Калі вельмі схематычна: на пэўным узроўні багацця на першы план у грамадзян выйдуць іншыя, больш высокія запыты - і сістэма захістаецца.

Зараз можна з'іранізаваў: рэжым у гэтым плане своечасова застрахаваўся, залішняе ўзбагачэнне беларусам зараз доўга не будзе пагражаць.

Калі ж сур'ёзна, то ў рэйтынгавай пасткі ёсць і іншы бок: па ўзроўні папулярнасці афіцыйнага лідэра банальна б'е змяншэнне даходаў.

Можна ўспомніць, што ў год фінансава-эканамічнага абвалу, у верасні 2011-га, электаральны рэйтынг Лукашэнкі па версіі НІСЭПД знізіўся да гістарычнага мінімуму - 20,5%. Гэта значыць электарат хоць, мабыць, і не дарос ў масе сваёй да прыярытэту высокіх патрэбаў, але сур'ёзна пакрыўдзіўся на ўшчамленне патрэбаў прыземленых.

Што ж будзе цяпер? Бо калі тады абвал пачаўся пасля выбараў-2010, то цяпер гібрыдную дэвальвацыю прыйшлося праводзіць перад электаральнай кампаніяй, прычым гэта для краіны, падобна, яшчэ далёка не апафеоз фінансава-эканамічных цяжкасцяў. Перш за ўсё таму, што дрэнныя перспектывы ў галоўнага донара - Расіі.

Між тым НІСЭПД ў снежні разам з некаторым падзеннем электаральнага рэйтынгу Лукашэнкі (да 40% з 45,2% кварталам раней) зафіксаваў і мінімальны за амаль 15 гадоў свайго маніторынгу ўзровень гатоўнасці рэспандэнтаў да ўдзелу ў публічных акцыях пратэсту. Так, у мітынгах і пікетах былі гатовыя ўдзельнічаць 9,3%, у забастоўках - 1,6%, у галадоўках - 0,8% (у жніўні 2001 года было адпаведна 16,7%, 12,9%, 4,0% ).

**Рэжым абапіраецца на пасіўнасць**

Нават ва ўмовах, калі зламаўся трэнд росту дабрабыту, будучая прэзідэнцкая кампанія не складзе адмысловай працы для дзейнага прэзідэнта, лічыць эксперт НІСЭПД Сяргей Нікалюк. Калі, падкрэсліў ён у каментары для Naviny.by, не здарыцца нічога экстраардынарнага (перш за ўсё з Расеяй).

Цяперашняя беларуская ўлада «абапіраецца не на падтрымку грамадства, а на яго пасіўнасць», кажа палітолаг.

Паводле яго слоў, улада ўжо дэ-факта перафармуляваць сацыяльны кантракт: калі раней формула была «лаяльнасць ў абмен на рост даходаў», то зараз - «лаяльнасць ў абмен на выжыванне». Чаму спрыялі, у прыватнасці, украінскія падзеі.

«Цяпер, як у песні Высоцкага -" дзякуй, што жывы », - іранізуе Нікалюк.

Па яго прагнозах, у электарата сыдзе яшчэ гады два на тое, каб зразумець: змена трэнду ў дабрабыце - гэта сур'ёзна і надоўга.

Але і ў далейшым не варта чакаць нейкіх рэвалюцыйных пераменаў у Беларусі, лічыць Нікалюк, пакуль Расія «застаецца ў яе цяперашнім выглядзе, з імперскімі амбіцыямі».

Працей кажучы, у гіпатэтычнай сітуацыі хістанні рэжыму магчымыя два варыянты: Масква прыходзіць на дапамогу цяперашняму беларускаму кіраўніцтву (ўліванні або сілавое падаўленне хваляванняў, а можа, і тое, і другое) або ж акуратна мяняе фігуру на чале сінявокай рэспублікі. Абодва варыянты не абяцаюць краіне рэформаў і прагрэсу.

Але пра такую перспектыве, падобна, не жадаюць задумвацца ні ў беларускіх вярхах, ні ў нізах.

Як ні парадаксальна, але і ўлада, і электарат (ды і, па вялікім рахунку, апазіцыя) паглынутыя адной і той жа прызямлёнай парадыгмай выжывання тут і цяпер.

**Аляксандр Класкоўскі**
**Чытаць цалкам: http://naviny.by**

НАШЫ КОШТЫ

# ДЗЯРЖАВА ПАДЫМАЕ КОШТЫ ПА ПРАВУ МОЦНАГА

**Хоць у Беларусі дзейнічае мараторый на павышэнне коштаў, сама дзяржава не саромеецца гэты мараторый парушаць, прычым нават на тыя тавары, кошт якіх аб'ектыўна павінна зніжацца.**

Красамоўны прыклад - аўтамабільнае паліва. Кошт бензіну павышана 13 студзеня, хоць забароны на рост рознічных цэн ўрад не адмяняў і пакуль не плануе.

З пункту гледжання канцэрна «Белнафтахім», рознічныя цэны на аўтамабільнае паліва не павышаны, а «часткова праіндэксаваныя ў сувязі з ростам курсу долара да беларускага рубля». Перагляд коштаў выраблены таксама *«у сувязі з ростам кошту расійскай нафты для беларускіх НПЗ пры увядзенні з 1 студзеня 2015 падатковага манэўру ў Расійскай Федэрацыі».*

І гэта таксама парадокс айчыннай эканомікі. Ва ўсім свеце кошт нафты падае, а для Беларусі расце.

Як адзначыў намеснік старшыні Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі (БНПА) Георгій Грыц, з кастрычніка мінулага года сярэдні кошт барэля нафты на сусветным рынку зваліўся з 90 да 50 даляраў, «і, як следства, цана вытворнага з яе павінна аб'ектыўна падаць».

У Беларусі ж назіраецца зваротны працэс, так як, на думку суразмоўцы Naviny.by, з пункту гледжання бягучай сітуацыі ўрад спрабуе не дапусціць выпадзення істотных сум з бюджэту, артыкулам папаўнення якога ў значнай ступені з'яўляюцца даходы ад продажу паліва.

*«Усё будзе залежаць ад наяўнасці здаровага сэнсу»*, - лічыць Георгій Грыц. - *Гэты цэнавай валюнтарызм мае нейкія аб'ектыўныя лагічныя межы. Будзем спадзявацца, што да крытычнай кропкі справа не дойдзе, як гэта здарылася ў канцы снежня. Вобразна кажучы, коней спыняць на шляху да абрыву, не чакаючы, калі яны пачнуць туды скакаць».*

*«Ураду неабходна задумацца аб адэкватнасці гэтых дзеянняў»*, - лічыць эксперт.

Георгій Грыц таксама звярнуў увагу на тое, што сёння ў краіне найбольш ярка праяўляецца фактар няроўных умоў гаспадарання: «Дзейнічае права моцнага, дзяржавы ў дадзеным выпадку. Атрымліваецца, мае рацыю той, у каго больш правоў ".

Эканаміст Аляксандр Сінкевіч не бачыць нічога дзіўнага ў тым, што адбываецца.

*«Эканоміка Беларусі больш за 20 гадоў кіруецца ў ручным рэжыме. Прымаецца рашэнне - ацэньваецца рэакцыя - рашэнне адмяняецца. Так было, напрыклад, з цэнамі на цыгарэты, якія спачатку падвысілі, а потым адкруцілі назад. Што тычыцца павелічэння коштаў на бензін, так гэта ўлады могуць выдаць не за павелічэнне, а за карэкціроўку адпаведна курсе даляра»*, - адзначыў эксперт.

Аляксандр Сінкевіч мяркуе, што *«гармонік інфляцыі будзе расцягвацца як мага даўжэй, каб людзі не былі шакаваныя тым, што ўсё і адразу падаражэла».*

*«Нас чакае серыя новых парадоксаў і непаслядоўна, выкліканых ручным кіраваннем эканомікай»*, - лічыць эканаміст.

На яго думку, удар за рашэнне ўрада расцягнуць непазбежны працэс павышэння коштаў прымуць на сябе золатавалютныя рэзервы і бізнэс.

**Алена Спасюк**
**Чытаць цалкам: http://naviny.by**

МОЛАДЗЕВАЯ ПАЛІТЫКА

# «МЁРТВЫЕ ДУШИ» БРСМ

**БРСМ провёл свой съезд. Накануне я писал, что самый любимый метод для власти в поиске новых идей – это «возрождение». БРСМ – классический пример «возрождения» комсомола. Поэтому сегодня всё было в лучших традициях: тысячи делегатов, платочки, ветераны, президент, аплодисменты.**

В 2012 году молодежные бонзы отрапортовали про то, что в рядах БРСМ состоит свыше полумиллиона человек. Не буду гадать, сколько добавилось за последние пару лет (сайт организации об этом скромно умалчивает). Предположим, что цифра осталась примерно на том же уровне.

«Самая популярная молодежная организация!» – радостно восклицает диктор БТ, освещая нынешний съезд.

А был ли мальчик?

Если БРСМ настолько популярная организация, состоять в которой к тому же можно без страха получить по шапке, то лайков и перепостов должно быть столько, что Джастин Бибер обзавидуется.

Итак, залез я в социальные сети полумиллионного гиганта и обнаружил, что либо молодежь в БРСМ какая-то особенная, которой интернет не интересен, и она всё в полях да лугах, либо колосс стоит даже не на глиняных ногах, а, в лучшем случае, на ватных.

Самая большая группа у БРСМ в социальной сети «ВКонтакте» – 14 315. В Фейсбуке – 430 человек (для сравнения: группа «Молодого фронта» в 2 раза больше), в твиттере – 422 фолловера (у «Говори правду» – 3252), инстаграм – 148. В видеоблоге на youtube – 168 подписчиков, и в среднем 30 просмотров у каждого видео. А посещаемость официального сайта организации на прошлой неделе колебалась от 429 до 986 пользователей.

Это и не удивительно, ведь мы знаем, что дети идут в БРСМ «потому что так надо», и гордая цифра в 580 000 греет лишь бумагу, на которой написана. Формальность – главный признак сегодняшней системы – является фундаментом для его молодежного детища.

Возможно, после этой записи кто-то получит по шапке и цифры социальных сетей быстренько накрутят, но это не сделает «мертвые души» живыми.

Что же держит этого «возрожденного колосса»? Ответ прост – бюджетные деньги.

43 миллиарда рублей (4,5 миллиона долларов) бюджетных денег в год. В 2005-м – 5 миллиардов рублей. В 2014-м – уже 43! Именно столько получила эта организация на свою деятельность.

И не просто получила, а с 2012 года, благодаря Указу Президента абсолютно без отчета перед обществом, так как проходят эти бессмысленные траты по графе «служебные расходы». И правда: на сайте организации, я не нашел никакой отчетности за потраченные ресурсы.

43 миллиарда на «служебные расходы» – мне это нравится. За некую честность. Потому что это и вправду не на молодежную политику. Не на то, чтобы молодежь знала английский язык и чувствовала себя уверенно в современном мире. Это «служебные расходы» системы на картинку.

БРСМ – это типичный пример неэффективного государственного проекта, обладающий всеми его качествами: закрытость от общества, в том числе и финансовая, запутанная и неэффективная система управления, отсутствие ясных целей, задач, планов, монопольная роль государства в определении что и как делать. Такой проект существует ровно до тех пор, пока власть считает целесообразным тратить на него наши деньги. Но, как только ситуация изменится, от массовости останется только недвижимость, которую будут растаскивать современные «комсомольцы».

Руководителя БРСМ, формально избранного сегодня, можно «поздравить» только с одним. Он стал новым распорядителем десятков миллиардов рублей, которые ему выдадут за картинку с «мертвыми душами».

**Андрей Дмитриев**
**facebook**




Сяргей Нікалюк: *“Калі аналізуеш рэальнасць па афіцыйных заявах, неабходна памятаць, што яны амаль не маюць дачынення да таго, што адбываецца на самай справе.”* **(“Новы час”)**

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сененская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: kas_vit@tut.by
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку 29.01.2015 у 17.15**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.